# За правы чалавека

Віцебскі рэгіянальны праваабарончы бюлетэнь

№ 11 (82) Лістапад 2013 г.


## Новае рашэньне КПЧ ААН: Беларусь парушыла правы Сяргея Каваленкі

**Камітэт ААН па правах чалавека прыняў чарговае рашэньне наконт скаргі віцебскага актывіста КХП-БНФ Сяргея Каваленкі.** Гэтым разам рашэньне станоўчае: камітэт прызнаў, што Рэспубліка Беларусь парушыла правы актывіста, і цяпер цягам 180 дзён дзяржаўныя чыноўнікі абавязаныя аднавіць яго правы, якія былі парушаныя, выплаціць адпаведную кампэнсацыю ды зрабіць захады, каб гэткіх парушэньняў правоў грамадзян з боку дзяржавы не было ў будучыні.

**Камітэт прызнаў, што ўлады Беларусі парушылі частку 2 артыкулу 19 (права на выказваньне свайго меркаваньня) і артыкул 21 (права на мірныя сходы) міжнароднага Пакту аб грамадзянскіх і палітычных правах, які Рэспубліка Беларусь падпісала і абавязалася выконваць.** Гэтакага прызнаньня парушэньня яго правоў з боку інстытуту ААН Сяргей Каваленка мусіў чакаць больш за 5 гадоў (скарга ў КПЧ была пададзеная ім ў траўні 2008 году), а самі падзеі, якія сталі прычынай скаргі, адбыліся 6 гадоў таму — на Дзяды 2007 году.

Тады Сяргей Каваленка браў удзел у шэрагу акцыяў дэмакратычных актывістаў. Адна з такіх акцыяў — грамадзянская паніхіда ў памяць ахвяр сталінскіх рэпрэсіяў, ладзілася на месцы масавых расстрэлаў ў 1930-1940-я гады ля вёскі Паляі. У паніхідзе бралі ўдзел каля трох дзясяткаў чалавек.

Удзельнікі цырымоніі ў памяць невінаватых ахвяр камунізму плянавалі ўсталяваць крыж у лесе ля Паляёў, а пасьля наведаць магілкі ў ваколіцах вёсак Копці і Вароны. Але да могілак так і не даехалі: у справу ўмяшаўся маёр міліцыі Ліленка, які перапыніў паніхіду і абвясьціў, што ўсе прысутныя затрымліваюцца ў сувязі з правядзеньнем імі несанкцыянаванага пікетаваньня.

На аўтобусе, нанятым арганізатарамі мерапрыемства, усіх адвезьлі ў аддзел унутраных справаў Віцебскага раёну, былі складзеныя пратаколы, а на наступны дзень адбыўся суд, які пакараў штрафамі пяцярых удзельнікаў мерапрыемства, у тым ліку Сяргея Каваленку: ён быў пакараны штрафам у памеры 20 базавых велічынь — на той час гэта складала 620 тысяч рублёў (каля 200 эўра паводле тагачаснага курсу).

Сяргей Каваленка абскардзіў рашэньне суду Віцебскага раёну. Але ані Віцебскі абласны, ані Вярхоўны суд не пачулі ягоных аргумэнтаў, што ён ня быў сярод арганізатараў, а толькі ўдзельнікам мерапрыемства, што само мерапрыемства — грамадзянская паніхіда — гэта не пікетаваньне, а хрысьціянскі рытуал, што ўдзельнікі паніхіды ня ладзілі якой-кольвек палітычнай, сацыяльнай або эканамічнай імпрэзы, таму зьвяртацца па дазвол на яе правядзеньне да ўладаў не было неабходнасьці. На думку беларускіх судзьдзяў, правы Сяргея Каваленкі парушаныя не былі...

Але цяпер Камітэт ААН па правах чалавека прыняў іншае рашэньне. У сваёй пазыцыі па справе, апублікаванай надоечы, камітэт адзначае, што права на выказваньне свайго меркаваньня і права на мірныя сходы, сапраўды, могуць быць абмежаваныя ў шэрагу выпадкаў: калі гэткія абмежаваньні прадугледжаныя законам і неабходныя ў дэмакратычным грамадстве дзеля аховы нацыянальнай бясьпекі ці грамадзкага ладу, здароўя ці маральных звычаяў насельніцтва, аховы і правоў іншых людзей.



Сяргей Каваленка

У выпадку зь Сяргеем Каваленкам дзяржава не змагла даказаць, што абмежаваньні яго правоў, хаця яны і прадугледжаныя законам, былі прымененыя дзеля дасягненьня названых мэтаў. **Таму, згодна зь меркаваньнем экспэртаў камітэту, яго права на выказваньне свайго меркаваньня і права на мірныя сходы, былі абмежаваныя беспадстаўна.**

Напрыканцы мінулага году Камітэтам ААН па правах чалавека была разгледжаная іншая справа Сяргея Каваленкі, якая тычылася прыцягненьня яго да крымінальнай адказнасьці за вывешваньне бел-чырвона-белага сьцягу на вершаліне каляднай елкі ў студзені 2010 году. Тады КПЧ ня змог адказаць, ці былі парушаныя правы актывіста КХП-БНФ, і ягоны зварот у камітэт быў прызнаны «непрымальным у адпаведнасьці з артыкулам 2 Факультатыўнага пратаколу».

## Алесь Бяляцкі: Спадзяюся, што мая чалавечая адсутнасьць кампэнсуецца вашай актыўнасьцю



Алесь Бяляцкі

*«У мяне ўсё па-старому. Зэк сядзіць — тэрмін ідзе. Неўпрыкмет я падбіраюся да піку і празь месяц пакачуся ўжо з горкі. Спадзяюся, што мая чалавечая адсутнасьць кампэнсуецца вашай актыўнасьцю. Трымайцеся і не апускайце рукі. Да сустрэчы»*, — гэтак напісаў кіраўнік праваабарончага цэнтру «Вясна» **Алесь Бяляцкі**, які адбывае пакараньне ў бабруйскай папраўчай калёніі №2, віцебскаму праваабаронцу **Леаніду Сьвецiку**.

Леанід Сьвецік кажа, што гэта ўжо 10-ы ліст, які ён атрымаў ад праваабаронцы-палітвязьня пасьля таго, як апошні апынуўся за кратамі.

Нагадаем, Алесь Бяляцкі быў узяты пад варту 4 жніўня 2011 году. 24 кастрычніка суд Першамайскага раёну Менску (судзьдзя Сяргей Бандарэнка) прызнаў яго вінаватым «ва ўтойваньні прыбыткаў у буйным памеры» і прысудзіў да 4,5 гадоў зьняволеньня. Міжнародныя праваабарончыя арганізацыі прызналі Алеся Бяляцкага вязьнем сумленьня.

# *Доктар-псыхіятар Ігар Пастноў зьвярнуўся ў Канстытуцыйны суд*

Віцебскі **доктар Ігар Пастноў**, у нядаўнім мінулым пацыент УАЗ «Віцебскі абласны клінічны цэнтар псыхіятрыі і наркалёгіі» накіраваў зварот у Канстытуцыйны суд Рэспублікі Беларусь. Ён просіць Канстытуцыйны суд ініцыяваць праверку Закону Рэспублікі Беларусь № 349-З «Аб аказаньні псыхіятрычнай дапамогі», у прыватнасьці, яго прэамбулы і артыкулу 40, на адпаведнасьць артыкулам 21, 40 і 62 дзеючай Канстытуцыі краіны.

Прычынай канстытуцыйнай скаргі сталі падзеі, якія адбываліся ў жніўні-верасьні 2013 году ў Віцебску. Тады, а менавіта 21 жніўня 2013 году, судзьдзя суду Віцебскага раёну Дзегцярова на падставе рашэньня ўрачэбна-кансультацыйнай камісіі (УКК) і са згоды Віцебскай гарадзкой пракуратуры ў прысутнасьці намесьніка галоўнага ўрача па мэдычнай частцы па псыхіятрыі УАЗ Віцебскага абласнога клінічнага цэнтру псыхіятрыі і наркалёгіі І. Панамарова вынесла пастанову аб прымусовым псыхіятрычным лячэньні Ігара Пастнова. Паседжаньне суду адбывалася без удзелу грамадзкасьці, прадстаўніка пракуратуры, законнага абаронцы, самога спадара Пастнова і ягоных крэўных.



Ігар Пастноў

Згодна з рашэньнем суду Ігар Пастноў падлягаў лячэньню і штомесячнаму агляду УКК, якая была надзеленая паўнамоцтвамі вызначаць ступень ачуньваньня апанэнта ўлады і неабходнасьці працягу яго лячэньня.

Таксама, на падставе арт. 40 Закону Рэспублікі Беларусь «Аб аказаньні псыхіятрычнай дапамогі», кіраўніцтвам лячэбнага установы было прынятае рашэньне пра абмежаваньне права апальнага лекара на вядзеньне ліставаньня, атрыманьне і адпраўку тэлеграм, лістоў, грашовых пераказаў, пасылак і бандэроляў, атрыманьне усялякага роду перадач. Акрамя таго, яму было забаронена карыстацца тэлефонам і прымаць наведвальнікаў, мець і набываць прадметы першай неабходнасьці, карыстацца ўласнай вопраткай.

Характарызуючы гэтыя падзеі, Ігар Аляксеевіч у сваім звароце піша, што **«карная псыхіятрыя, якую выразна неканстытуцыйны Закон робіць сапраўднай, была прыменена да мяне не на словах, а на справе. Без своечасовай і эфэктыўнай дапамогі і абароны недзяржаўных інстытутаў і цывілізаваных людзей з развітай правасьвядомасьцю зь мяне б ужо, напэўна, зрабілі бязвольную расьліну».**

Ён паказвае на неадпаведнасьць артыкулу 40 Закону «Аб аказаньні псыхіятрычнай дапамогі» артыкулу 40 Канстытуцыі, у якім гаворыцца, што «Кожны мае права накіроўваць асабістыя або калектыўныя звароты ў дзяржаўныя органы». Гэтага канстытуцыйнага права, на думку Пастнова, ён быў пазбаўлены. І гэтае пазбаўленьне стала магчымым з-за недасканаласьці дзейнага заканадаўства.

Як сьцьвярджае былы «вязень сумленьня», **«Названыя ў артыкуле 40 Закону абмежаваньні не дазваляюць пацыенту паведаміць пра жорсткае або нялюдзкае абыходжаньне, пра злачынствы, заявіць пра катаваньні, а таксама абмяжоўваюць права на абарону ў адпаведнасьці з артыкулам 62 Канстытуцыі». У гэтым артыкуле асноўнага закону краіны абвяшчаецца, што «Кожны мае права на юрыдычную дапамогу для ажыцьцяўленьня і абароны правоў і свабодаў, у тым ліку права карыстацца ў любы момант дапамогай адвакатаў і іншых сваіх прадстаўнікоў у судзе...».**

Апроч таго, Канстытуцыяй наўпрост забаронена каму-небудзь процідзейнічаць аказаньню прававой дапамогі. Аднак у дачыненьні да Пастнова супрацьдзеяньне атрыманьню адвакацкай і іншай прававой дапамогі з боку кіраўніцтва УАЗ «Віцебскі абласны клінічны цэнтар псыхіятрыі і наркалёгіі» было цалкам відавочным.

Пры канцы свайго звароту доктар-псыхіятар піша: **«Ад таго, што пры дзеючым Законе я адчуў на сабе, у нашай краіне не застрахаваны ніхто! Гэтую патэнцыйную пагрозу павінен пастарацца ўсьвядоміць кожны з нас, ад кіраўніка дзяржавы і судзьдзі Канстытуцыйнага Суду да простага доктара. Усьвядоміць хаця б для таго, каб забясьпечыць сабе і іншым жыцьцё, годнае чалавека».**

## Кіраўнік партыі «Белая Русь» скардзіцца генпракурору


Сяргей Рыжоў

**«Экзэкуцыя доўжылася 4 гадзіны. Увесь гэты час мяне абражалі нецэнзурнай лаянкай. Часам я страчваў прытомнасьць, часта гучна чытаў малітву. Гэта яшчэ больш раздражняла катаў у пагонах, і тады я працягваў чытаньне малітвы моўчкі. Мне дапамагала гэта перанесьці боль. Пасьля 4 гадзін катаваньняў я падпісаў пратакол і яшчэ 4 невядомыя мне дакументы», — напісаў у сваёй скарзе Сяргей Рыжоў.**

Кіраўнік незарэгістраванай партыі «Белая Русь» зьвярнуўся да генпракурора пасьля таго, як апынуўся ў Віцебскім мэдвыцьвярэзьніку. Паводле слоў Сяргея Рыжова, у выцьвярэзьніку пасьля катаваньняў, адпускаючы, яму прыгразілі: «Данясеш — заб'ем!»

Цяпер справай аб зьбіцьці віцебскага палітыка ў выцьвярэзьніку займаецца Сьледчы камітэт. Паводле слоў Сяргея Рыжова, пасьля здарэньня яго неаднаразова запрашалі сустрэцца — ня толькі міліцыянты для дачы паказаньняў, але і сам начальнік мэдвыцьвярэзьніку: апошні патэлефанаваў Рыжову з нумару +375 29 5978877 і прапанаваў сустрэцца... у ягонай машыне. Рыжоў адмовіўся...

**На думку Сяргея Рыжова, супраць яго ўчыненая правакацыя. Ён распавёў: невядомы старшы лейтэнант міліцыі паведаміў яму, што ёсьць пляны адправіць яго ў ЛПП. Для зьдзяйсьненьня плянаў застаўся толькі адзін прывад цягам году: «Цяпер мы цябе засадзім, — цытуе словы лейтэнанта Рыжоў. — Ты пойдзеш на ЛПП, а стуль можаш і не вярнуцца!». На думку палітыка, тое, што адбываецца, — гэта выкананьне чыёйсьці палітычнай замовы.**

## Скандал у судзе: узнагарода знайшла свайго героя

За невыкананьне парадку інфармаваньня грамадзян аб пераносе часу пэрсанальнага прыёму, старшыня суду Першамайскага раёну Віцебску Андрэй Андрушэнка прыцягнуты да матэрыяльнай адказнасьці. Скарга пра нядбайнае выкананьне Закону Рэспублікі Беларусь «Аб зваротах грамадзян і юрыдычных асоб» кіраўніком раённага суду, паступіла ў Міністэрства юстыцыі Рэспублікі Беларусь ад віцебскага **праваабаронцы Паўла Левінава.**


Павал Левінаў

Факт парушэньня закону меў месца 1 кастрычніка, калі Левінаў прыбыў у вызначаны час на асабісты прыём да старшыні райсуду Андрушэнкі. Зьяўленьня Андрэя Анатольевіча праваабаронца чакаў доўга, але так і не дачакаўся. Абурыўшыся нядбайным стаўленьнем кіраўніка суду да патрабаваньняў заканадаўства, Павал Левінаў паведаміў пра факт парушэньня закону ў Мін'юст краіны.

Таксама ён зьвярнуўся ў Камітэт дзяржкантролю Віцебскай вобласьці з прапановай распачаць у дачыненьні да Андрушэнкі А.А. адміністрацыйны працэс за парушэньне ім заканадаўства аб зваротах грамадзян.

Для праверкі паведамленьня праваабаронцы абодва органы зьвярнуліся ў галоўнае ўпраўленьне юстыцыі Віцебскага абласнога выканаўчага камітэту. Пасьля дэталёвага разгляду скаргі, першы намесьнік начальніка галоўнага ўпраўленьня юстыцыі Віцаблвыканкаму Ігар Каржоў паведаміў Левінаву:

*«Падчас праведзенай праверкі выяўлена наступнае:*

*Згодна з графікам прыёму грамадзян старшыня суду Першамайскага раёну г. Віцебску Андрушэнка А.А. ажыцьцяўляе прыём грамадзян кожны аўторак з 8:00 да 17:00 гадзін. 1 кастрычніка 2013 г., у дзень прыёму, старшынём суду Андрушэнкам А.А. разглядалася крымінальная справа, прынятая да сваёй вытворчасьці ад хворага судзьдзі. Сапраўды, пры гэтым пісьмовая інфармацыя пра перанос часу і месца прыёму старшыні суду на інфармацыйным стэндзе разьмешчаная не была.*

*За невыкананьне парадку інфармаваньня грамадзян пра перанос часу прыёму старшыня суду Андрушэнка А.А. прыцягнуты да матэрыяльнай адказнасьці.*

*Падстаў для пачатку адміністрацыйнага працэсу ў дачыненьні да старшыні суду Андрушэнкі А.А. за парушэньне Закону Рэспублікі Беларусь "Аб зваротах грамадзян і юрыдычных асоб" у межах сваёй кампетэнцыі ня бачу. У выпадку нязгоды з адказам на Ваш зварот Вы маеце права зьвярнуцца ў Міністэрства юстыцыі Рэспублікі Беларусь».*

Гэта той рэдкі выпадак, калі «ўзнагарода знайшла свайго героя». Звычайна скаргі, накіраваныя на незаконныя дзеяньні судзьдзяў, не задавальняюцца органамі юстыцыі.

# Суд дазволіў Віцебскаму гарвыканкаму парушаць уласныя рашэньні

Кастрычніцкі райсуд Віцебску адмовіў двум актывістам, якія хацелі ў судовым парадку змусіць цэнтральную гарадзкую паліклініку падпісаць дамову на мэдычнае абслугоўваньне ўдзельнікаў сьвяткаваньня Дня Волі. Але суд не пагадзіўся прызнаць, што забарона вынесеная з парушэньнямі — як адпаведнага рашэньня выканкаму, так і беларускага заканадаўства.

Справа, якую два дні разьбірала судзьдзя Кастрычніцкага райсуду Алена Папкова, тычылася забароны на правядзеньне ў Віцебску шэсьця і мітынгу. Гэтыя акцыі плянаваліся дзеля салідарнасьці зь лекарам Ігарам Пастновым, прымусова зьмешчаным на псыхіятрычнае лячэньне. Каардынатар руху «За свабоду» па Віцебскай вобласьці **Хрыстафор Жаляпаў** і актывіст аргкамітэту па стварэньні сацыял-дэмакратычнай партыі «Народная Грамада» **Аляксей Гаўруцікаў** зьбіраліся абмеркаваць зь землякамі праблему недапушчальнасьці выкарыстаньня мэдычных установаў псыхіятрычнага профілю супраць тых, хто крытыкуе ўлады.


Хрыстафор Жаляпаў, Аляксей Гаўруцікаў

Актывістам адмовілі. У лісьце за подпісам намесьніка старшыні гарвыканкаму Ўладзімера Шломы паведамляліся прычыны забароны: маўляў, яны ня выканалі патрабаваньняў гарвыканкаму, сфармуляваных у рашэньні № 881 «Аб правядзеньні масавых акцыяў у горадзе Віцебску». У прыватнасьці, яны не прыклалі да заявак копіі дамоваў з ЖКГ, міліцыяй і мэдыкамі.

Да таго ж спадар Шлома паведамляў, што якраз 28 верасьня ў Парку культуры і адпачынку чыгуначнікаў заплянавана іншае мерапрыемства — сьвята для моладзі «Разам мы — вялікая сіла». Што да шэсьця, то тут гарвыканкам сам парушыў сваё ж рашэньне, тлумачыць юрыст Аляксей Гаўруцікаў:

*«У рашэньні гарвыканкаму № 881 шэсьці не згаданыя ўвогуле. Адпаведна, дзеяньне гэтага рашэньня на гэты від мерапрыемстваў і не павінна распаўсюджвацца! Але спадар Шлома ня стаў даваць суду тлумачэньні — двойчы не зьявіўся на працэс. А прадстаўніца аддзелу ідэалёгіі Ірына Пучкова заявіла, што рашэньне гарвыканкаму ляжыць у адным рэчышчы з законам аб масавых мерапрыемствах, а таму па змоўчаньні распаўсюджваецца на любыя акцыі. Пры гэтым яна ўпарта падкрэсьлівала, што гэтае рашэньне прайшло юрыдычную экспэртызу і таму бездакорнае. Хоць мы даводзілі суду, што яно супярэчыць дзейнаму заканадаўству».*

Супярэчнасьць у тым, што ў законе аб масавых акцыях сказана пра парадак падачы заявак. А Віцебскі гарвыканкам яго «ўдасканаліў» — запатрабаваў заключаць дамовы на абслугоўваньне мерапрыемстваў яшчэ да таго, як будзе прымацца рашэньне пра дазвол ці забарону. І таму выканаць патрабаваньні гарвыканкаму немагчыма, працягвае Аляксей Гаўруцікаў:

*«Мы паказалі суду адказы зь міліцыі. Там гаворыцца, што дамовы з намі будуць заключаць толькі пасьля таго, як будзе атрыманы дазвол ад выканаўчай улады. Так патрабуе закон. А рашэньне гарвыканкаму абласная ўправа МУС нават ня згадвае! Выходзіць, таксама яго парушае. Хоць спадарыня Пучкова падкрэсьлівала ў судзе, што яно абавязковае для выкананьня ўсімі названымі суб'ектамі».*

Судзьдзя пастанавіла, што забарона актывістам вынесеная без парушэньняў. І не пагадзілася на прапанову актывістаў парэкамэндаваць гарвыканкаму прывесьці сваё рашэньне ў адпаведнасьць зь дзейным заканадаўствам.

*«Рашэньне выканкаму „ўкліньваецца“ паміж законам і грамадзянінам, які мусіць яго выконваць. Праз гэта мы ня можам паступаць паводле закону і ня можам рэалізаваць сваё права на арганізацыю і правядзеньне масавых акцыяў. З намі папросту не заключаюць дамоваў, пакуль няма дазволу выканкаму. А там не даюць дазволу без дамоваў. Нас штурхаюць да таго, каб мы праводзілі акцыі бяз санкцыі ўладаў? Толькі так можна зразумець упартасьць гарвыканкаму, які не пагаджаецца зьмяніць сваё рашэньне, каб людзі змаглі скарыстацца сваімі канстытуцыйнымі правамі»,* — гаворыць Хрыстафор Жаляпаў.

З часу, як у 2009 годзе Віцебскі гарвыканкам прыняў сваё рашэньне № 881, у Віцебску не было дазволена ніводнай акцыі з ініцыятывы дэмакратычных актывістаў.

Бюлетэнь “За правы чалавека” выдаецца праваабаронцамі Віцебскага рэгіёну.
Наклад 299 асобнікаў.
Пры падрыхтоўцы бюлетэня выкарыстоўваліся матэрыялы сайта http://prava.vitebsk.cc і іншыя Інтэрнэт-рэсурсы.